# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (609) ГОД XVI БЕЛАСТОК 29 ЖНІЎНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




Пры ўездзе ў гэтую мясцовасць на расахатых паказальніках, густоўна зробленых з абкараваных яловых вершалін, каляровыя стрэлкі паказваюць: «Турыстычная інфармацыя», «Абслугоўванне турыстычнага руху», «Прыродазнаўчы музей», «Белавежскі запаведнік», «Дом экскурсанта», «Краязнаўчы музей», «Рэзерват зуброў» і г.д. — каля дваццаці іх на кожным скрыжаванні. Арыгінальна гэта зроблена і добра. Чужы чалавек, турыст, у Белавежы не заблудзіць і знойдзе ўсё тое, па што ён сюды прыехаў.

І ў Белавежы штодня сотні турыстаў і экскурсантаў з усёй краіны, нямала сярод іх і замежных гасцей. На пошце — натоўп: дзесяткі каляровых паштовак з белавежскімі звярамі і раслінамі кіруюцца ў розныя бакі краіны і свету. Што ж, вядома, Белавежская пушча ў вакацыйным сезоне — вялікая атракцыя. І пушча, і зубры, і Навукова-даследчы інстытут лесу, і Інстытут даследвання млекакормячых Польскай акадэміі навук, і камфартабельны пансіён «Іва»...

Але мы абмінаем шумлівы натоўп турыстаў і кіруемся да скромнага доміка ва ўстанову, назвы якой няма на ніводным белавежскім паказальніку — у Грамадскую раду нарадовую. Цішыня тут і спакой. Усе магчымыя наведвальнікі гэтай установы — сталыя жыхары Белавежы — сёння ў полі, вядома, жніво! Ва ўтульным пакойчыку сакратара рады Баляслава Слёнзака на стале сімвал Белавежы — зубр — праца мясцовага народнага ўмельца і разважанні над вырашэннем дзесяткаў зусім неканікулярных праблем.

— Белавежа, — кажа ён, — усё ж такі пераважна сельская мясцовасць, і аснова яе — гэта сельская гаспадарка. Зямля ў нас слабенькая, многа з гектара не дае. Жывёлагадоўля нам бы дапамагла. Лугоў над ракой Нараўкай шмат ёсць, але ўсе надта ж забалочаныя, дзікія — адзін кругляк ды асака, каровы мызы калечаць. Прыступілі мы да іх з меліярацыяй. Новыя равы напоўніліся рудаватай вадой з багны. Лугі нашы павесялелі. Кругляк ды асака сталі зводзіцца. Але тут навукоўцы з белавежскіх даследчых інстытутаў трывогу на ўсю краіну паднялі: ад нашай меліярацыі небяспечна панізіцца ўзровень грунтовай вады ў пушчы, зараз пойдуць за ім беспаваротныя перамены ў раслінным і жывёльным свеце, Белавежа перастане быць Белавежай, зменіцца ў звычайны лес. Раку Нараўку не дазволілі рэгуляваць, вада з меліярацыйных равоў не мае сплыву, і на нашых лугах па-ранейшаму красуецца кругляк ды разуха. Для дабра навукі і вышэйшых мэт з развіццём жывёлагадоўлі нам прыйшлося адступіць.

— Белавежа стала ў апошнія часы папулярнай турыстычнай мясцовасцю. Гэта, напэўна, карысна ўплывае на гаспадарчае жыццё вашай грамады. Ці гэта не цешыць вас? — стаўлю пацяшальнае пытанне свайму размоўцы.

— І так, і не. Бо бачыце, белавежская грамада налічвае каля 3600 жыхароў, з гэтага звыш 2000 асоб жыве ў самай Белавежы, а праз нашу мясцовасць штогод пераваливаецца каля 100 000 турыстаў і экскурсантаў. Нас цешыць, што Белавежа карыстаецца такім поспехам. Але што нам, белавеж-

Працяг на стар. 4



...І ў Белавежы ўмеюць зарабляць на турыстах.

Фота Р. Пруські



Паштоўка з Драгічына.

Фота Цаф — Сянько

## ПРА СЕЛЬГАСГУРТКІ

Згодна з новай сельскагаспадарчай палітыкай сельгасгурткі далей будуць той установай, якая абеспячае вёску машынамі, трактарамі.

У апошнім часе першапланавай справай стала рэнтабельнасць гэтых гаспадарчых устаноў. Як вядома, сельгасгурткі не створаны на тое, каб даваць высокія даходы арганізацыі. Іх мэта — гэта купля дарагіх машын і абслугоўванне гаспадара так, каб не прыносіць гуртку страт. Не выключае гэта аднак прыкладаў, што некаторыя добра гаспадаруючыя сельгасгурткі маюць даходы. Аднак зараз маем многа гурткоў, якія прыносяць страты. Чаму так? Справа гэта складаная. Увагу хочацца сканцэнтраваць на некаторых недахопах.

Вядомай справай з'яўляецца тое, што каб гурток мог у будучыні выдаткаваць грошы, напрыклад, на капітальны рамонт трактара, трэба адкладаць адпаведны фонд на так званую амартызацыю. І калі якая-небудзь машына на столькі ўжо выкарыстана, што не надаецца да далейшага карыстання і да рамонту, трэба на 14 дзён ад моманту вываду з карыстання аб гэтым заявіць у банк. Банк тады скрэслівае яе са сваёй эвідэнцыі і перастае адлічваць фонд на амартызацыю данай машыны. А вядома ж, што калі машынаю не карыстаюцца, дык яна не можа прыносіць ніякага даходу, а ў даным выпадку прыносіць страты. Іменна ў Бельскім павеце можна яшчэ многа знайсці сельскагаспадарчых гурткоў, якія

Працяг на стар. 4




Канец жніўня. У вучняў яшчэ канікулы, але неўзабаве пачнецца новы навучальны год і ўсе школьныя залы запоўняцца дзіцячым радасным гоманам. Зноў вучні сядуць за парты і пачнуць навуку. Астаецца ўсяго некалькі дзён. Але пакуль што ў многіх школах зараз паспешліва заканчваюцца рамонты.

На Гайнаўшчыне ў гэтым годзе грамадскія рады нарадовыя перадалі са сваіх бюджэтных лішак 465 тысяч злотых на дробныя рамонты школ.

За гэтыя грошы ў школах адрамантаваны сцены, падлогі, кафельныя печы, дахі, прышкольныя агарожы і г.д. Да рамонтаў уключыліся тры спулдзельні: спулдзельня шматгалінавых паслуг у Гайнаўцы, рамесніцкая спулдзельня забяспячэння і збыту ў Гайнаўцы і будаўнічае прадпрыемства камунальнай гаспадаркі ў Бельску Падляшскім, кваліфікаваныя прыватныя рамеснікі, бацькоўскія камітэты і г.д. Як паінфармаваў нас інспектар Ліпінскі, зараз усе рамонты ў школах паспяхова закончыліся. Адноўлены класы і адрамантаваны печы ў Нараўцы, Масеве, Койлах, Навакорніне, Палічнай, Ласінцы, Трасцянцы, Соцах, Старым Корніне, Белавежы, Дубінах, Навасадах, Кляшчэлях, Дашах. Адноўлены класы ў школах у Чэхах Арлянскіх, Дубічах Царкоўных, Грабаўцу, Чыжах, Ляневе, Збучы, Крыўцы, Барысаўцы, Ляшуках і Чаромусе. Новыя агарожы атрымалі зараз школы ў Ляшуках, Чаромусе і Даратынцы. У Нарве адрамантаваны склад школьных дапаможнікаў. У Кленіках адноўлена кухня, адаптаваны адзін пакой і зроблены шафкі на верхнюю вопратку, плашчы і абутак. У Гайнаўцы адноўлены класы ва ўсіх школах. Апрача таго, у беларускім ліцэі адрамантавана падлога ў гімнастычнай зале.

Капітальныя рамонты праводзяцца ў гэтым годзе ў школах у Іванках, Новаберазове і Дашах. Школа ў Іванках дадаткова атрымае цэнтральнае ацяпленне, а школы ў Новаберазове і Дашах — электраўстаноўку.

І так 1 верасня дзеці з гайнаўскіх школ распачнуць новы навучальны год у адноўленых, пахнучых свежай фарбай і тынкамі класах і майстэрнях.

Варта пры гэтым прыгадаць, што каб належна і тэрмінова закончыць рамонты школ, аб гэтым шмат паклапаціліся перш за ўсё загадчыкі школ, настаўнікі і бацькі. Ім найбольш залежала, каб школьная моладзь мела добрыя ўмовы да навукі, а перш за ўсё чыстыя і светлыя класы. Для дабра дзяцей не шкадавалі яны сваіх сіл і намаганняў. І за гэта на парозе новага навучальнага года належацца ім самыя шчырыя словы падзякі.

*Янка Цялушэцкі*

# Адпачынак над Нарвай

У плёскаўскім пясочку над рэчкай Нарвай дасканала адпачываюць людзі. Лясочак сасновы на ўзвышшы і ў ім амаль няма камароў. А гэта ўжо вельмі важная справа. Рэчка чыстая, мае розную глыбіню, так што і для дзяцей ёсць дзе бяспечна купацца, і дарослыя знойдуць адпаведнае месца для плавання.

7 год таму назад Беластоцкае прадпрыемства ПКС-у пачало тут будову кэмпінговых домікаў і загаспадарыла некалькі гектараў уздоўж берага. Тут пабудавана прасторная сталовая, якая выкарыстоўваецца вечарам для глядзення тэлевізійных перадач. Пабудавана таксама пад соснамі танцавальная пляцоўка. А пазычальня лодак цешыцца тут вялікай папулярнасцю. Ёсць тут і вада з крану, якая здабываецца электрычнымі насосамі з глыбіннай студні.

Па-суседску з дамамі адпачынку ПКС-аў знаходзяцца кэмпінговыя домікі Беластоцкага прадпрыемства сувязі.

За дамамі адпачынку ПКС-у многія размяшчаюцца тут са сваімі палаткамі і дасканала адпачываюць. За лясочкам раскінуліся лугі вёскі Плёскі. Пасуцца тут каровы, якіх кожны гаспадар увязвае на сваёй пашы. Калі хто пажадае папіць свежага малака, калі ласка, можна купіць тут адразу свежанадоенага. Можна купіць тут і іншыя прадукты, як напрыклад яйкі, масла, сыр.

Рэчка Нарва багата рыбай. Ёсць тут шмат шчупакоў. А ўжо мянькоў стольկі, што кожны дзень рукамі моладзь, пераважна плёскаўская, стольki налавіць, што аж цяжка ў гэта паверыць.

Кожную суботу і нядзелю прыязджае сюды адпачываць шмат жыхароў з Беластока і Бельска Падляшскага.

*М. Хмялеўскі*
*Фота П. Зінкевіч*



*Сталовая прадпрыемства ПКС.*



*У гарачыню прыемна ў вадзе.*

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСАЎ

Хоць і са значным спазненнем, але не выпадае нам не паведаміць нашых чытачоў аб працы Л. А. Малчанавай «Матэрыяльная культура беларусаў»[1]), якая выйшла ў Мінску ў 1968 годзе. Праца падрыхтавана ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР. Прысвечана яна, як ва ўступе сцвярджае аўтар, «характарыстыцы важнейшых бакоў матэрыяльнай культуры беларускага сялянства — прыладам земляробства, сёлам, сялібам, жыллю, вопратцы, ежы, начынню перыяду дзвюх дасацыялістычных фармацый: позняга феадалізму і капіталізму (XIX — пачатак XX ст.)».

Кніга складаецца з уводзін, у якіх аўтар робіць крытычны агляд публікацый, прысвечаных беларускай этнаграфіі, што паявіліся ў XVIII — XX ст. ст. У першым раздзеле разглядаецца земляробства і прылады да яго, гародніцтва і садаводства, стан сялянскай жывёлагадоўлі, народны каляндар. Раздзел другі прысвечан сёлам, сялібам і жыллю беларусаў. У трэцім ідзе гаворка аб вопратцы, упрыгожаннях, галаўных уборах і абутку. У чацвёртым даецца характарыстыка ежы і яе нарыхтоўкі, пітва, хатняга начыння. У заключэнні аўтар кнігі падсумоўвае сваё даследванне і сцвярджае, што «ў выніку працяглага развіцця матэрыяльная культура Беларусі сфармавалася як своеасаблівае культурнае адзінства, якое выразна адрозніваецца ад суседніх усходнеславянскіх вобласцей». І ў той жа час «культура беларусаў наогул і матэрыяльная ў прыватнасці фармавалася і развівалася ў цесным узаемадзеянні з культурай навакольных народаў», але «найбольшая блізкасць у матэрыяльнай культуры беларусаў назіраецца з рускімі і ўкраінцамі, з якімі беларусы звязаны агульным паходжаннем...»

У кнізе багата замалёвак з натуры, фотаздымкаў і карт. Асабліва каляровыя здымкі і малюнкі наглядна дэманструюць непаўторную прыгажосць народнага мастацтва нашага люду.

Праца Л. А. Малчанавай з'яўляецца вялікім укладам у беларусазнаўства. Яна з'яўляецца, па сутнасці, першай спробай стварыць звод ведаў па матэрыяльнай культуры нашага сялянства напярэдадні пераможнага наступу на вёску т.зв. гарадской культуры, наступу, які разам з тэхнікай і прагрэсам у штодзённым жыцці нівеліруе ўвесь арыгінальны каларыт культуры паасобных народаў, у тым ліку і беларускага. Гэтаму натуральнаму працэсу ніхто не ў сілах катэгарычна супрацівіцца, ён з'яўляецца заканамернасцю жыцця «homo technicus» — чалавека эпохі тэхнікі. Але ў той жа час гэты ж сучасны чалавек у барацьбе з паглынаючай усё шэрасцю і аднастайнасцю штораз часцей заглядае ў сваё мінулае, каб адтуль чэрпаць матывы арыгінальнасці і разнастайнасці, без якіх ён не можа жыць. І яго пошукі, як правіла, вядуць да свядомага выкарыстання багаццяў сваёй нацыянальнай культурнай традыцыі, нараджаюць імкненні да яе прадаўжэння і далейшага развіцця. Таму кніга Л. А. Малчанавай дзякуючы багаццю факталагічнага матэрыялу, які з піетызмам у ёй сабраны, зусім не ўспрыймаецца толькі як акадэмічнае даследванне, але дае шырокія магчымасці практычнага яе выкарыстання ў сцэнічным мастацтве, прамысловым узорніцтве, гастраноміі. Словам, у тых дзялянках нашага жыцця, у якіх беларусы дагэтуль не надта актыўна эксплуатавалі сваю багатую арыгінальную культурную традыцыю. А шкада...

У заключэнне сказанага хочацца толькі пажадаць Л. А. Малчанавай далейшых плённых вынікаў у галіне даследвання матэрыяльнай культуры беларускага народа і пры гэтым прыпомніць беларускім этнографам, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы мае даволі значныя зборы экспанатаў беларускай матэрыяльнай культуры ў этнаграфічным музеі ў Белавежы, якія чамусьці па сённяшні дзень застаюцца па-за ўвагай вучоных Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР.

(мг)

---

[1]) Молчанова, Л. А., Материальная культура белорусов, Мінск 1968, стар. 230.

# • ЛЯВОНІХА •

Няма такіх вёсак у беларускім асяроддзі Беласточчыны, дзе б не зналі «Лявоніхі» — эстрады ГП БГКТ. Яна ўжо больш дзесяці год расслаўляе нашую прыгожую беларускую музыку, песню і беларускі танец. Яна прывівае любоў да роднага слова. І ў многіх мясцовасцях папулярнымі сталі песні, якія выконвае «Лявоніха». Нашая беларуская эстрада набліжаецца ўжо да свайго вялікага юбілею. Ужо больш тысячы дзевяцісот канцэртаў дала яна на Беласточчыне і па-за яе межамі. У хуткім часе будзем адзначаць двухтысячны канцэрт эстрады.

«Лявоніха» кожны месяц дае не менш чатырнаццаці канцэртаў. Гэты сяміасабовы калектыў каля дзвюх гадзін дасканала бавіць прысутных у зале сваімі песнямі, маналогамі і танцамі.

Кожны год у ліпені або жнівені «Лявоніха» выязджае на турнэ па-за Беласточчыну ў якое-небудзь іншае ваяводства. У гэтым годзе выступала яна з канцэртамі ў Зялёнагурскім ваяводстве. Было там пятнаццаць выступленняў у гарадах і вясковых вялікіх цэнтрах.

У жнівені ўсе члены «Лявоніхі» ў водпуску. У верасні зноў Мікалай Гурыновіч — шафёр мікробуса «Ныса» будзе вазіць артыстаў туды, адкуль прыдуць заяўкі на канцэрты. І зноў «Лявоніху» будуць сардэчна вітаць на вёсках і ў гарадах. Аб ёй ідзе добрая слава не толькі ў беларускім, але таксама і ў польскім асяроддзі. «Лявоніха» мае цяпер добрыя сучасныя музычныя інструменты, дзякуючы якім канцэрты яшчэ больш цікавыя і прыемныя.

(мх)

## ХОДЗЯЦЬ НА КУРС

29 маладых юнакоў і дзяўчат з усёй ляўкоўскай грамады ў Гайнаўскім павеце актыўна ўдзельнічала ў занятках курса на права вадзіць матацыкл, машыну і трактар, якія адбываліся ў стараляўкоўскай школе ў месяцы ліпені г.г. Заняткі на курсе вялі Тадэвуш Штукевіч і Міхась Леўчук з Гайнаўкі. 8 жніўня г.г. адбыліся пробныя экзамены. Іх курсанты прайшлі паспяхова. Неўзабаве адбудуцца экзамены перад дзяржаўнай камісіяй у Гайнаўцы. (яц)

## ПРА СПУЛДЗЕЛЬНІ

Спулдзельчасць «Самапомачы хлопскай» мае шмат сваіх рамонтных прадпрыемстваў. Аказваецца, што нярэдка наняць іх на рамонт будзе даражэй, чымсьці «чужое» прадпрыемства. Расказвалі мне ў бельскім ГС-е, што яны вымушаны былі, напрыклад, машыну для вырабу аранжады везці аж у Гравева толькі таму, што папсаваліся два клапаны (заворкі). На гэта трэба было патраціць дзень для двух чалавек і транспарт туды і назад. Рамонт працягваўся цэлы тыдзень, а за гэты час можна было б зрабіць 20 тыс. бутэлек аранжады. А тым часам гэты дробны рамонцік маглі б правесці механікі з Бельска, якія на дадатак памяшчаюцца па-суседску з аранжадным заводам. (ак)

# Хто здабыў узнагароды

Чытальніцкі турнір на сельскагаспадарчую тэму закончыўся вясной, але толькі цяпер можам глянуць на цэласныя вынікі. Ваяводская бібліятэка ў Беластоку прадставіла нам вынікі з усяго ваяводства.

Да турніра прыступілі ўсе павятовыя і грамадскія бібліятэкі. Таксама большасць бібліятэчных пунктаў. Тэма была: веды аб развіцці кармавой базы і прадукцыі мяса і веды аб вырошчванні раслін і гародніны.

У грамадах шмат працы ўклалі грамадскія бібліятэкі, аграномы, заатэхнікі. Прапаганда турніру ішла праз павятовыя арганізацыі ЗМВ, клубы «Рух» і клубы селяніна, праз маладых гаспадароў.

Для прапаганды конкурсу-турніру было апрацавана 871 выстаўка, 597 плакатаў, 316 газетак.

Найбольш выставак апрацавалі ў Бельскім павеце — 78. Найбольш газетак зрабілі ў Беластоцкім павеце — 59, тут жа найбольш адбылося дакладаў — 179.

Былі такія формы, як супольнае чытанне кніжак і газет уголас, супольнае слуханне радыёперадач і перадач па тэлебачанню.

Для ўдзелу ў турніры трэба было выпісаць нейкую сельскагаспадарчую газету. Таму вельмі ўзрасла колькасць падпіскі на сельскагаспадарчыя часопісы, такія як «Плён», «Механізацыя Рольніцтва», «Пшыспособене Рольнічэ», «Гаспадыня», «Агрохэмія», «Машыны Рольнічэ», «Огродніцтво».

У час турніру бібліятэкі пазычылі 118 тысяч 590 сельскагаспадарчых кніжак. Кожны з удзельнікаў прачытаў у сярэднім па 2,5 кніжкі.

Прыступіла да турніру 38 тысяч асоб. Больш было мужчын, пераважна звыш 30 год. Найбольш было сапраўдных гаспадароў, потым ішлі рабочыя сельскай гаспадаркі.

Грамадскія і павятовыя конкурсы праходзілі цікава. Усе пераканаліся, што такі турнір дае многа практычных і патрэбных ведаў.

Каб вызначыць месцы, бралася ў паветах пад увагу колькасць удзельнікаў турніру ў адносінах да ліку жыхароў павета. І так, першае месца здабыў павет Сейны — 18,0 прац. усіх яго жыхароў прыступіла да турніру, другое месца — павет Беласток — 7,8 прац., трэцяе месца — павет Монькі — 4,4 прац.

Да ваяводскага турніру прыступіла 69 асоб. Найлепшых 12 з Беласточчыны прыняло ўдзел у цэнтральным турніры.

Індывідуальна першае месца на ваяводскім турніры па тэме кармавой базы заняў Юзэф Кеўляк з Сейненскага павета. Атрымаў ён узнагароду — батэрыйную агарожу без слупкоў.

Першае месца па тэме расліннай вытворчасці заняў Васіль Астапковіч з Гайнаўскага павета, які атрымаў конную капалку. (вл)

Пачатак на стар. 1




цам, з яго? У касу грамадскай рады ад турызму не ўплывае ні граша. У нас жніво збірае спулдзельня «Турыст», што вядзе пансіён «Іва», «Грамада», «Орбіс» і іншыя турыстычныя прадпрыемствы. Яны нам ні ў чым не пасабляюць, а толькі ставяць патрабаванні: вуліцы павінны быць па-сучаснаму асветлены, тратуары гладкія, магазіны і рэстараны належна забяспечаны ў тавары і прадукты; турыстам патрэбны ў Белавежы добры пляж, развесяляльныя мерапрыемствы — усяго не пералічыш. А гэта вымагае працы і грошай. Працы мы не шкадуем, грамадскія пачыны ў нас вельмі папулярныя і людзі ахвотна працуюць над упарадкаваннем і ўпрыгожаннем сваёй мясцовасці, а з грашыма ды выканаўчымі прадпрыемствамі — бяда. Праўда, Павятовая рада ў Гайнаўцы штогод дае нам 700—800 тысяч злотых, але гэта кропля ў моры. Калі б Белавежа атрымала статус горада і мела ўплыў з турызму, справа, напэўна, выглядала б інакш.

Размова наша працягваецца. Сакратар Б. Слёнзак не толькі бядуе, але і з выразным задавальненнем падкрэслівае:

— Але вось, бачыце, неўзабаве будзе ў нас добрае асвятленне ўсіх галоўных вуліц, бо і лямпы ўжо мы маем і выканаўцу па электрыфікацыі. На вуліцы Трапінка пакладзём добры тратуар, каб турыстам выгадней было хадзіць на начлегі. Добра выглядае справа з дзіцячым садам, які будуем грамадскім чынам. У апошні час і ў сельскай гаспадарцы грамады выразна палепшылася: многія з тых, хто раней хацеў па старасці здаць свае гаспадаркі ў дзяржаўны фонд зямлі, каб атрымаць пенсію, цяпер устрымаліся. Хочуць яшчэ самі гаспадарыць. Пастанова нашай партыі і ўраду аб адмене абавязковых паставак заахвоціла нават старэнькіх гаспадароў да працы на зямлі. Навукоўцы, што прыязджаюць у белавежскія даследчыя інстытуты, як правіла, на стала асядляюцца ў Белавежы, не ўцякаюць. Разгарнулі мы намаганні і па арганізацыі тут у нас жыллёвага кааператыва. Маем ужо звыш 40 ахвотных уступіць у яго. Гэта ўсё рабочыя, настаўнікі, навукоўцы, служачыя. І, здаецца мне, з жыллёвым кааператывам у нас справа пойдзе таксама добра. Асабліва цяпер, калі нашыя цэнтральныя ўлады так многа ўвагі прысвячаюць паляпшэнню жыллёвых умоў у краіне.

Меню ў сталовых і рэстаранах Белавежы надрукаваны на чатырох мовах: польскай, рускай, французскай, англійскай. Шкада толькі, што большасці з гэтых страў няма. Афіцыянткі прапануюць наведвальнікам тое, што скромненька дапісана алоўкам у канцы меню: пячонку, катлетку, зразы, амлет і яшчэ там нешта, што на іншаземныя мовы перакладаць не варта. Але ў гаманлівым натоўпе едакоў, дзе гэтыя ж мовы гучаць на яве і нікога не здзіўляюць, пануе добры настрой: усім смакуе і гэтая звычайная, белавежская ежа, прыпраўленая настаялым жывічным пахам Белавежы і шумлівым напевам яе старэчаў-дубоў.

*Мікалай Гайдук*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТІННЕ:

Я замяніў з суседам участак зямлі. Я даў дзялянку 0,8 га, а атрымаў 0,5 га. Гэта было звыш дваццаці год таму назад. Ці набыў я права ўласнасці на ўчастак суседа праз даўнасць?

АДКАЗ:

Карыстанне ўчасткам зямлі, атрыманым у замен за ўласны, можа прывесці да набыцця права ўласнасці праз даўнасць. Аднак і пры набыцці ўласнасці праз даўнасць абавязваюць нормы аб абмежаванні падзелу гаспадарак. У абставінах, у якіх не можна купіць зямлю, — не можна таксама набыць уласнасці праз даўнасць.

У Вашым выпадку перашкод да сцвярджэння набыцця ўласнасці праз даўнасць не будзе. Па закону нязначнае змяншэнне абшару гаспадарства, якое вынікае з замены ўчастку зямлі на іншы, не лічыцца падзелам гаспадаркі, калі прычыняецца да паляпшэння структуры гаспадаркі.

У справе сцвярджэння набыцця ўласнасці ўчастка праз даўнасць трэба звярнуцца ў павятовы суд.

Пачатак на стар. 1

## ПРА СЕЛЬГАСГУРТКІ

гадамі трымаюць у сябе знішчаныя машыны і плацяць на амартызацыю, што, зразумела, прыносіць вялікія страты.

Напэўна не найважнейшая гэта прычына страт сельгасгурткоў, аднак з'яўляецца яна той прычынай, якую лёгка ліквідаваць і дапамагчы павятоваму саюзу сельгасгурткоў можа ў гэтым актыў.

Іншы прыклад. У працуючай на полі машыне лопнуў шарыкападшыпнік. У такім выпадку трэба званіць у ПОМ па тэхнічную дапамогу. Па колькі ПОМ-ы не маюць аж так многа механікаў і машын тэхнічнай дапамогі, нярэдка і дзень трэба пачакаць. Людзі чакаюць, за амартызацыю трэба плаціць, а даходу нічагуткі. Урэшце тэхнічная дапамога прывозіць шарыкападшыпнік, закладае ў машыну, і машына пайшла. За нейкі час прыходзіць у гурток рахунак за паслугі. Некаторыя гаспадары гавораць, што гэтыя помаўцы падапісвалі розных прац. У рахунку, які я аглядаў, нічога такога не дашукаўся. Рахунак быў выпісаны з поўнай саліднасцю і згодна з абавязваючымі цэннікамі. Але, зразумела, было тут узята пад увагу ўсё і тое, што ехаў самаход туды і назад, днёўка механіку, бо амаль столькі патраціў ён часу. за работу, якую выканаў і, зразумела, за матэрыял — шарыкападшыпнік. Шарыкападшыпнік каштаваў 60 зл. І як думаеце, колькі сельгасгурток заплаціў ПОМ-у? Амаль 500 зл.

А можна было б зрабіць так, што трактарыст сам мог бы гэты шарыкападшыпнік уставіць нават бясплатна. Але трактарыст гэтага рабіць не мае права, а па-другое, нідзе не купіць шарыкападшыпніка да трактара.

*А. Лабановіч*



*Сямяцічы. Новапабудаваныя жылыя блёкі. Фота — Я. Цялушэцкі*



## ◆ ЧАС ПЕРАМЕН ◆

У Гайнаўскім павеце пражывае 60 тысяч жыхароў. 70 працэнтаў усіх жыхароў займаецца сельскай гаспадаркай. Зямельныя ўгоддзі вельмі слабыя — V і VI клас. Усё яшчэ многія сяляне прымяняюць традыцыйныя метады гаспадарання. У 1965 годзе сяляне сеялі на адзін гектар зямельных угоддзяў усяго 25 кілаграмаў мінеральных угнаенняў у чыстым складзе. Зараз — 80 кілаграмаў NPK у чыстым складзе. У 1970 годзе на сто гектараў прыпадала 36,9 кароў і 57,3 свіней. У сярэднім кожная карова давала на працягу года 1900 літраў малака, што не належыць да добрых вынікаў. Смела можна сказаць, што сельская гаспадарка на Гайнаўшчыне адсталая. З году ў год адбываюцца тут аднак карысныя перамены. Сёння ніхто ўжо не хоча касіць траву або збожжа касой. Пры гэтым варта адзначыць, што 250 трактараў на цэлы павет — гэта замала. Маладыя гаспадары ў многіх вёсках адмаўляюцца ад традыцыйных метадаў гаспадарання і спецыялізуюцца, напрыклад, у жывёлагадоўлі. Некаторыя з іх — гэта выпускнікі сельскагаспадарчых школ, жывыя прыклады сучасных метадаў працы ў полі і ў сялянскай сядзібе.

(яц)



Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ДРУКАРЫ І АСВЕТНІКІ — ЧАСТКА III

Васіль Цяпінскі. Як было ўжо намі сказана, Цяпінскі выдаў «Евангеліе». На жаль, не ведаем ні года, ні месца выдання гэтай кнігі. Да нашага часу захавалася толькі два экземпляры кнігі Цяпінскага. Абодва экземпляры знаходзяцца ў Ленінградзе. «Евангеліе» Цяпінскага мае наступны падзагаловак: «Первая часть Нового завета, або тестамента, подлуг словенского разделенья, то есть от четырех евангелістов святое Евангеліе Ісуса Хрыста спісаное, в которых іж одно пісьмо евангельское, прото одным словам. і его назвалі Евангеліе».

«Евангеліе» перакладзена Цяпінскім на тагачасную беларускую мову. Нас. зразумела, не цікавіць змест свяшчэннай кнігі. Цікава аднак заняцца прадмовай, у якой Цяпінскі закрануў цэлы рад праблем, характарызуючых і тагачасныя ўмовы ў Беларусі, і погляды самога Цяпінскага.

Аўтар тлумачыць між іншым прычыны, з-за якіх узяўся ён тлумачыць святую кнігу. Цяпінскі гаворыць, што высока пастаўленае духавенства і вучоныя выказвалі абыякавасць да кнігі і таму яму, сціпламу чалавеку, прышлося ўзяцца за выдавецкую справу. Рэалізуючы гэты намер, вымушаны быў ён звярнуцца да кніг «старых, даўных». Кампетэнтныя людзі не толькі яму не памаглі, але нават перашкаджалі. Паслухайма скаргі Цяпінскага: «Няўдзячнасцю, пагардаю, а некаторыя, як дзякі, замест дапамогі зайздрасцю плаціць хацелі.»

Акадэмік Карскі лічыць не без падстаў, што свой пераклад рабіў Цяпінскі з польскага перакладу «Евангелія», і з гэтай прычыны ў беларускім перакладзе нямала паланізмаў.

Адной з праблем, моцна падкрэсленай у прадмове Цяпінскага, з'яўляецца праблема роднай зямлі, роднай мовы, айчыны. У трактоўцы гэтых галін Цяпінскі несумненна застаецца ў палоне аргументацыі Скарыны. Цемра, паводле Цяпінскага, — гэта адзін з галоўных ворагаў народу і айчыны. Ліквідацыя цемры магчыма толькі пры дапамозе кнігі. І таму ён, аўтар перакладу, і ён, выдавец, не шкадаваў сваёй убогай маёмасці для друку кнігі, якая можа прычыніцца да ліквідацыі невуцтва ў краіне. Цяпінскі несумненна бачыў упадак нацыянальнага жыцця. Назіраў мярт-веччыну царквы, абыякавасць высокапастаўленых вяльмож, экспансію чужаземнага элементу і таму хацеў ратаваць айчыну ад небяспекі. Сваю гатоўнасць выдажыў Цяпінскі ў пафаснай заяве аб тым, што калі радзіма да канца згіне, то і ён з ёю згіне, а калі знойдзецца для айчыны ратунак, дык і ён разам з ёю ашчасліўіцца. Уводзячы беларускую мову ў евангелічныя тэксты, хацеў Цяпінскі наблізіць «Біблію» да народа. Пры гэтым аднак не хацеў ён супрацьстаўляць свой пераклад стараславянскаму тэксту. Побач беларускага тэкста бачыў у «Евангеліі» Цяпінскі і тэкст стараславянскі. Гістарычнае значэнне стараславянскай мовы падкрэслівае Цяпінскі і ў прадмове. Славіць ён, відавочна, Кірылу і Мефодзія, хаця не называе іх прозвішчаў, за тое што яны пераклалі тэкст «Біблії» з грэчаскай на стараславянскую мову. Цяпінскі несумненна разумеў адвечную эвалюцыю навукі. Ведаў, што як у дзесятым стагоддзі існавала патрэба перакладу свяшчэннага пісання з грэчаскай на славянскую мову, так у XVI ст. існавала патрэба тлумачэння «Біблії» са стараславянскай на сучасную народную мову. Цяпінскі лічыў, што беларуская народная мова дастаткова багатая, далікатная для таго, каб аддаць усю складанасць і глыбіню свяшчэннага тэксту.

Падкрэсліваючы сваю антыпатыю да духавенства за яго абыякавыя адносіны да народнай мовы, адначасова гаварыў Цяпінскі і аб тым, што духавенства не разумела таксама мовы стараславянскай, якой паслугоўвалася ў царкве. Невуцтва духавенства і вяльмож не магло не адбівацца на народнай асвеце. Недахоп школ быў, паводле Цяпінскага галоўнай прычынай слабасільнасці краіны. Лічыў ён вялікім сорамам тое, што з прычыны адсутнасці школ вяльможы высылалі сваіх дзяцей «у польскія або у іные» школы. А на колькі ж лепш было б, каб землеўласнікі прызначылі частку свайго багацця на развіццё сістэмы асветы.

Як ужо было сказана, Цяпінскі быў пратэстантам. І таму рэлігійныя палемікі не маглі не паяўляцца ў яго кнізе. Трэба аднак зазначыць, што Цяпінскі быў прапагандыстам згоды і міру. Барацьба, якая вялася паміж веравызнаннямі, была, па меркаванню Цяпінскага, з'явай неразважнай і некарыснай для нацыянальнага жыцця. Інтарэсы нацыянальнага жыцця павінны стаяць на першым плане, незалежна ад веравызнання і палітычных поглядаў. Цяпінскі лічыў нацыю з'явай цэласнай. Несумненна, ён бачыў класавы падзел тагачаснага грамадства, але думка аб класавай нязгодзе, а тым больш барацьба ніколі не прыходзіла яму ў галаву. Гуманізм Цяпінскага быў ідэяй згоды, братэрства, узаемнага зразумення і альтруізму.

Ужо некалькі разоў мы падкрэслівалі залежнасць поглядаў і працы Цяпінскага ад Скарыны. Аднак не ва ўсім Цяпінскі паўтараў свайго папярэдніка. Напрыклад, сваю прадмову трактаваў ён толькі і выключна як уласны маніфест, тады калі Скарына выкарыстоўваў яе для інфармацыі аб змесце кнігі. У гэтым аднак аналогіі паміж друкарствам і поглядамі Цяпінскага і Скарыны не могуць падлягаць аспрэчванню.

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК І ЧУЛАЕ СЭРЦА

Нядаўна ў вёсцы Жукі, што на Гайнаўшчыне, шаснаццацігадовы хлапец Е. Г., знімаючы з пліты каструлю з кіпенем, раптоўна аслаб і ўпаў на гарачую пліту, выліваючы на сябе вар. Страшна папарыўся хлапец і, мусіць, памёр бы, каб яму адразу ж не аказаў дапамогу Васіль Петручук з Беластока, які прыпадкова ў гэты дзень знаходзіўся ў Жуках. Ён сваім самаходам адвёз хлопца і яго маці ў Кляшчэлі і там з пастарунку міліцыі пазваніў па хуткую дапамогу ў Гайнаўку.

Хуткая дапамога адвезла хлопца ў шпіталь, дзе лекары ўратавалі яго ад смерці.

*Сталы чытач «Нівы» з Кляшчэль*

## НА «ЗАЛАТУЮ КАСКУ»

У канцы ліпеня г.г. у Казінцах, Беластоцкага павета адбыліся спаборніцтвы уласнікаў матацыклаў на «Залатую каску», якія арганізавала Павятовае праўленне ЛЗС у Беластоку. У спаборніцтвах удзельнічала 39 асоб. Падаем пераможцаў гэтых спаборніцтваў:

І месца — Януш Врубэль (ЛЗС Парослае), II — Канстанцін Явароўскі (ЛЗС Явароўка), III — Уладзіслаў Добжынскі (ЛЗС Казінцы) і IV — Здзіслаў Балабач (ЛЗС Казінцы). (яц)

## У ГРАМАДСКІМ ЧЫНЕ

Калектыў з перагрузачнага раёна Семяноўка—Нараўка ў Гайнаўскім павеце выканаў працу грамадскім чынам агульнай вартасцю на 240 тысяч злотых. Грамадскім чынам будавалі магазіны, гаражы, сховішчы і г.д. Служба аховы чыгункі (СОК) пабудавала грамадскім чынам клеткі для дрэсіраваных сабак. Зараз ідзе пракладка дарог да перагрузачных пунктаў, будуюцца купальні для рабочых і г. д.

(яц)

## СЦЁКІ ПЛЫВУЦЬ ВУЛІЦАЙ

У Гайнаўцы пры вуліцы Леніна ёсць некалькі жыллёвых блокаў, якія былі пабудаваны больш 8 гадоў назад. Блокі гэтыя не былі падключаны да гарадской каналізацыі. Маюць яны гэтак званыя шамбы. Шамбы аднак хутка запаўняюцца сцёкамі, якія пасля выступаюць на паверхню і плывуць проста па вуліцы. Вуліца смярдзіць і знаходзіцца ў антысанітарных умовах.

Гарадскім уладам неабходна заняцца гэтай справай як найхутчэй. Ці няма магчымасці ліквідаваць сцёкаў? Несумненна ёсць, і таму менавіта варта паклапаціцца аб гэтым. (яц)

## СЕЛЬГАСГУРТКІ

...У Беластоцкім павеце дзейнічае 189 сельскагаспадарчых гурткоў з колькасцю 11.261 членаў. Сельскагаспадарчыя гурткі карыстаюцца 430 трактарамі з камплектамі прычэпных машын.

...У Беластоцкім павеце дзейнічае 45 клубаў, 23 грамадскія бібліятэкі, 5 гарадскіх бібліятэк і 193 бібліятэчныя пункты. (яц)

## НЯДЗЕЛЬНАЯ КАРЧМА

У Сухавольцах ёсць крама, якая багата забяспечана ва ўсе артыкулы першай патрэбы. У краму давозіцца шмат піва і віна. У звычайны рабочы дзень нават той, хто прыйшоў купіць віно ці піва, вып'е яго і ідзе дамоў. Інакш у нядзелю. Тады збіраецца тут многа аматараў выпіўкі. П'юць віно і стоячы ў краме, і перад крамай, і седзячы на скрынках ад тавару. П'янства працягваецца да позніх гадзін вечара. Можна пачуць тут крыкі разгневаных жонак і плач дзяцей, якія не могуць адарваць адсюль сваіх мужоў і бацькоў.

Маладых людзей, п'ючых віно каля крамы, у аноўным не бывае. Моладзь культурна праводзіць час у сваім клубе пры тэлевізары альбо культурна бавіцца на арганізаванай танцавальнай вечарыне.

*М. К. Сухавольцы*




*Дарагое Сэрцайка!*

Я заўсёды чытаю твае парады і таму вырашыла і сама напісаць да цябе. Жыву я на вёсцы, закончыла пачатковую школу. Я хацела б паступіць у кандуктарскую школу ПКС. Я вельмі люблю такую працу, але не ведаю, ад чаго пачаць.

Парай, дарагое Сэрцайка, дзе такая ёсць школа і падай мне яе адрас. Калі там пачатак школьнага году і калі заканчэнне.

Прашу цябе, дарагое Сэрцайка, як найхутчэй адкажы мне на маё запытанне. За параду буду табе вельмі ўдзячна.

*Вера з Гайнаўшчыны*

*Вера!* Адносна тваёй справы прадпрыемства ПКС у Беластоку дало нам наступнае выясненне:
школ, якія б рыхтавалі кандуктараў, няма. Толькі прадпрыемства ПКС, прыняўшы кандыдатаў на пасаду кандуктара, праводзіць іх навучанне. Можа яно трываць тыдзень або два. Гэта залежыць ад здольнасцей самога кандыдата на кандуктара.

Аднак, каб прадпрыемства ПКС прыняло на пасаду кандуктара, трэба мець.
— закончаных 18 год жыцця;
— быць некараным судом;
— даць апінію з працы, калі перад тым ужо працаваў дзе-небудзь;
— быць прапісаным (замэльдаваным) у Беластоку і зарэгістраваным у пасрэдніцтве працы (у выдзяле затруднення).

Пры сталым кантакце з пасрэдніцтвам працы можна лічыць у такім выпадку на магчымасць атрымання працы, бо прадпрыемства ПКС, калі патрабуе кандуктараў, скіроўвае сваё запатрабаванне ў пасрэдніцтва працы.

*Сэрцайка*

## Каб лепш гаспадарыць

У Бельскім павеце, як, зрэшты, і ў цэлым нашым ваяводстве, ад 1968 года ідзе вялікая праца па ліквідацыі цераспалосіцы. Да гэтага часу ліквідавана тут цераспалосіца ў 31 вёсцы. Агульны абшар ліквідаванай цераспалосіцы — 17 тысяч гектараў. Характэрна, што ў 13-ці вёсках геадэзісты правялі працу па прапанове саміх гаспадароў. Зразумела, што ў такіх выпадках менш было скарг і спраўнейшы падзел зямлі.

У выніку гэтага былі выдзелены (у адным месцы) комплексы зямлі, якая з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы. 718 гектараў перададзена ПГР-ам, 500 гектараў выдзелена для сельскагаспадарчага тэхнікума ў Бельску 70 гектараў — прадукцыйным спулдзельням, а 320 гектараў — пад загаспадаранне сельгасгурткам.

У гэтым і 1972 годзе плануецца ліквідаваць цераспалосіцу ў 16-ці вёсках. Такім чынам, у 1972 годзе цераспалосіца ў Бельскім павеце будзе цалкам ліквідавана.

Варта адзначыць і тое, што прынята тут больш 60 гаспадарак на скарб дзяржавы ў замен за пенсію. Аднак колькасць старых людзей, якія хацелі б перадаць свае гаспадаркі дзяржаве ў замен за пенсію, намнога большая. (ак)

## ДЗЯЦІНЕЦ

Зараз добра адпачываюць дзеці ў дашкольным узросце з вёскі Лука, Гайнаўскага павета. Існуе тут дзяцінец, які налічвае 25 асоб. Вядзе яго мясцовая настаўніца Ніна Ціванюк. Усе дзеці абяспечаны рознымі гульнямі. У гэтым годзе аддзел асветы ў Гайнаўцы прызначыў дзве тысячы злотых на пакупку дзіцячых цацак. Дзеці ходзяць на экскурсіі, загараюць на сонцы, купаюцца ў рэчцы, развучваюць вершы, песні, слухаюць казкі.

Дзяцінец на вёсцы гэта вялікая выгада для бацькоў. Могуць яны сабе спакойна працаваць у полі, бо ўпэўнены ў тым, што дзеці іх маюць належны догляд. (яц)

## НА ФЕСТЫНЕ



*Удзельнікі фестына БГКТ у Талькоўшчыне на Сакольшчыне, які адбыўся 4 ліпеня.*

*Фота ЦАФ — П. Савіцкі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Poste-restante" (rumuński), 31. VIII. — 1.IX. „Sklep z modelkami" (USA), 2—3.IX. „Pan Dodek" (polski), 4—5.IX.

**Чыжы**
„Ostatni termin" (USA), „Zabawa w muzeum" (węgierski), 1—5. IX.

**Арэшкава**
„Jarzębina czerwona" (polski), „Album polski" (polski), 4—5.IX.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Znaki na drodze" (polski), „Ostatnie wakacje" (radz.) 1—5. IX.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**
„Krajobraz po bitwie" (polski), 1—5.IX.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Świat grozy" (polski), 31.VIII. — 1.IX. „Dziki swobodny" (ang.), 2—3.IX. „Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), 4—5.IX.

**Мельнік**
„Biała pani" (czeski), 31.VIII. — 1.IX. „Krwawa bajka" (jugosłowiański), 2—3.IX. „Krajobraz po bitwie" (polski), 4—5.IX.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Pan Dodek" (polski), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 1—5. IX.

**Новы Двор**
„Wahadło" (USA), „Daleki ukochany" (radz.), 1—5.IX.

## Нялагернае лета

У камэндзе гуфца ў Гайнаўцы працуе штаб нялагернага лета. Начальнікам яго з'яўляецца Мікалай Федарук. Акцыяй нялагернага лета ахоплена ў павеце 763 дзяцей. Камэнда гуфца правяла падрыхтоўчыя курсы для 140 застэмповых нялагернага лета. Цяпер працу 78 груп акцыі нялагернага лета. Усе яны выконваюць заданні пад назвай «Падарожжы рабінзонаў 71». Штодзень у камэнду гуфца наплываюць новыя рапарты аб выкананні чарговых заданняў. Форма працы вельмі разнародная. Застэмпы значную частку сваіх заданняў прысвячаюць на грамадска карысную працу: памагалі пры сенакосах і жніве, апекаваліся дзяцьмі, арганізоўвалі мастацкія выступленні, вялі супрацьпажарны і санітарны кантроль.

Найлепш працуюць застэмпы ў вёсках Койлы, Сямівалокі. Арэшкава, Трасцянка, Вітава, Старое Беразова, Нарва, Чыжы, Крывяцічы, Залешаны, Янова.

Нач. штаба НАЛ
гм. М. Федарук

---

лагічныя спрэчкі з тутэйшым ксяндзом. Яны нават падружыліся.

*«Гэта была дружба,* — піша яго пляменніца, — *людзей, якія глыбока верылі, але кожны ў свайго «бога» (дзядзька быў камуністам ад 18-ці год жыцця), якія шанавалі адзін другога, аднак стараліся ўзаемна даказаць адзін другому праваму сваёй «веры».*

У чэрвені 1941 года Барыса Нікалаевіча выклікалі ў Маскву па службовых справах. І тут захапіла яго лютая вайна.

Уявіце сабе роспач і злосць чалавека, якога фронт аддзяліў ад самых блізкіх і каханых. Ні пісьма не пашлеш, ні сам ніякай весткі — так пажаданай, так чаканай! — не атрымаеш.

І не толькі ён адзін знайшоўся ў падобным становішчы. Ведаў пра гэта. Аднак у нічым гэта не зменшыла яго болю і злосці. Дык не шкадаваў сябе на фронце. Мсціўся на ворагу за крыўду сваю і за іншых, за крыўду цэлай Радзімы.

*4 верасня 1943 года варожая куля абарвала яго жыццё.*

*«...Прайшло вось 28 год ад часу, як ён загінуў,* — піша *яго пляменніца Галіна Панцеляймонаўна,* — *аднак рана гэта ў нас да сёння застаецца свежай. Магчыма таму, што ён вырас у нашай сям'і і бацькі мае захавалі для яго пачуцці як для роднага сына, а я ўспамінаю яго як брата, а магчыма і таму, што быў гэта сапраўдны чалавек — Чалавек з вялікай літары...»*

Не даведаўся Барыс Нікалаевіч пра лёс сваёй сям'і.

А што сталася з ёю?

На жаль, таксама невядома.

Раніцай, у нядзелю 22 чэрвеня 1941 года сем'і савецкіх афіцэраў, пражываючыя на граніцы, паспешліва эвакуаваліся. З вёскі Анджэева таксама. Хацелі дабрацца да чыгуначнай станцыі Чыжэў. Дарога аднак была ўжо перарэзана.

І тут след губляецца. Барыс Нікалаевіч пісаў сваім сваякам яшчэ з фронту, што яго дачушкай, *яго паўтарагадовай Светай мог бы заняцца гэты ксёндз, з якім ён пасябраваў.* Аднак старэйшыя жыхары вёскі Анджэева не прыпамінаюць, каб у час акупацыі жыла ў іх нейкая руская жанчына з малой дзяўчынкай. А ксяндза таксама няма ўжо сярод жывых.

Вось як склаўся трагічны лёс сям'і Сперанскіх.

Ці ёсць надзея на тое, што хоць Святлана Сперанская засталася ў жывых? Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Здаралася ж (нават мне асабіста) знаходзіць пасля 25-ці год людзей, нібы загінуўшых у вайну, здаралася ж... І таму я поўнасцю згодны з Галінай Панцеляймонаўнай, якая мне піша: *«Я вельмі добра разумею, што людзі знаходзяць блізкіх у 0,001% выпадкаў, аднак вось нейкая надзея ёсць! А калі ёсць — сэрца не можа супакоіцца і хоча праверыць усе магчымыя пуцявіны.»*

Дык будзем аптымістамі!

Таццяна Елісееўна, жонка савецкага афіцэра, калі б жыла, мела б сёння 61 год. Іх дачушка, Святлана, была б сталай 32-гадовай жанчынай. У выпадку маці — дык не можа быць ніякай надзеі, бо яна ведала адрасы сваіх сваякоў і напэўна б адазвалася.

А Святлана Барысаўна, яе дачка?

Калі засталася ў жывых, дык не можа яна памятаць сваіх сапраўдных бацькоў і не можа ведаць свайго роднага прозвішча і імя.

А калі абедзьве загінулі? Дык як, *калі, дзе? Можа хто чуў, хто ведае?*

Можна спадзявацца, што з хваляй бежанцаў маці са сваёй дачушкай пачала прабірацца на ўсход. Значыць, праходзіла праз нашы вёскі. Тады ў першыя дні лютай вайны было вельмі горача. Недзе ў нашых гаспадароў прасілі яны вады і малака, прасілі нейкай ежы.

*Можа хто памятае, хто чуў?*

Чалавек жа не іголка, што прападае бясследна.

Ды не толькі сям'я Сперанскіх нас цікавіць. Колькі ж іншых сем'яў сустрэў падобны трагічны лёс! Вайна ўсё яшчэ з зусім нечаканых бакоў паказвае свае кіпцюры. Горкую бяду, якую нарыхтаваў нам нямецкі фашызм, прыходзіцца піць без канца.

Таму звяртаемся да нашых чытачоў, да ўсіх людзей добрай волі: *ХТО ЧУЎ, ХТО ВЕДАЕ?*

Не толькі пра трагедыю сям'і Сперанскіх. Чакаем вашых ліставў.

*Віктар Рудчык*

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

# Сустрэча двух генералаў

Генерал Хемры Спун быў начальнікам Ваеннай школы ў Нордпойнеце. Адзіноцтва старога халасцяка падзяляў яго любімец — шымпанзе, якога звалі Адам. Малпа, як і ўсе яго суродзічы, была вельмі непрыгожая, аднак вылучалася высокім інтэлектам.

Аднойчы, вярнуўшыся позна вечарам дамоў, генерал застаў Адама ў зусім незвычайным убранні: на малпе быў парадны генеральскі мундзір...

— Каб цябе! — раззлаваўся генерал. — Як ты пасмеў, сукін сын, надзець маю форму?!

Адам, вядома, не мог словамі выказаць свае перажыванні, ён пакаянна глянуў на гаспадара, потым з усіх чатырох ног кінуўся да століка, што стаяў у другім кутку пакоя, і прынёс генералу нейкую візітную картачку.

Гэта картачка, пустая бутэлька з-пад шампанскага і некалькі акуркаў дарагіх гаванскіх сігар памаглі Спуну дагадацца, што да яго заходзіў яго калега генерал Бэры і што Адам вельмі прыязна прыняў госця.

Разабраўшыся ў падзеі, Спун папрасіў прабачэння ў малпы і пайшоў спаць.

Раніцай генералы сустрэліся. Бэры сказаў Спуну:

— Прабач, дружа, я ўчора, калі сядзеў у цябе ў гасцях, забыў цябе спытаць: дзе ты дастаеш такія чароўныя сігарэты? Зрабі ласку...

Генерал Спун не даслухаў, кінуў на субяседніка злосны позірк і павярнуўся да яго спіною.

Генерал Бэры схапіў яго за руку і прабачлівым тонам сказаў:

— Не злуйся, стары дружа, я ж пажартаваў...

Спун, аднак, працягваў глядзець на яго ледзяным позіркам. Бэры працягваў:

— Вядома, я пажартаваў! Даю слова гонару: не прасядзеў я ў цябе і паўгадзіны, як зразумеў, што перада мною не ты, а твая малпа...

*Амброз Бірс*





## ЦІ БЕГЛА ПАРАСЯ?

У аднаго гаспадара выбегла з панадворка парася. Ён пачаў яго шукаць і па дарозе сустракаецца з цыганом.

— Цыгане, — кажа гаспадар, — бегла сюды парася?

А цыган кажа:

— Як дасі мне дзесяць злотых, то скажу, што бегла, а як не дасі, то скажу, што не бегла.

## У СУДЗЕ

— Абвінавачаны, вы сцвярджаеце, што кідалі ў пацярпеўшага толькі памідоры?

— Так, пане суддзя!

— Дык чым жа вытлумачыць гэтыя шышкі на яго галаве?

— Памідоры былі ў слоіку, пане суддзя!

## ЦІ ДУМАЕ

Нарачоная пытае нарачонага — шафёра аўтобуса:

— Ці думаеш ты пра мяне хоць крыху ў час сваіх рэйсаў?

— Ці думаю? Ды я ўжо разбіў з-за цябе два аўтобусы!

## У ЦЯГНІКУ

У купэ цягніка стары выцягвае з кішэні люльку.

— Вы не супраць, калі я закуру?

— Адчувайце сябе, як дома! — адказвае пасажырка.

— Добра, — уздыхнуў стары і схаваў люльку ў кішэнь.

## КРЫТЫКАНУ

Шаноўны! Старайся не вельмі
Хутка хадзіць.
Соку, каб стацца хмельным,
Трэба перабрадзіць.
Брага недастаялая —
Яшчэ каламуць,
А каламуць, нават малую,
І коні не п'юць.
Не выдавай нам кісляціну
Ты за віно.
Можа, якой выжляціне
Па густу яно.
Мы ж, як і ўсе нармальныя,
Чыстае п'ём...
Што ж ты, душа крухмальная,
Нас пугаеш...
Не зарывайся вельмі,
Час і сябе спыніць...
Соку, каб стацца хмельным,
Трэба перабрадзіць.

*Алесь Бачыла*

## СА СВАЕЙ ЗВАНІЦЫ

Мядзведзь пра зайца:

— Вось дзівак — уцякае ад лісы. А чаго? Ляпнуў бы яе па спіне лапай і ўсё тут.

*Р. Бохан.*



## ХТО ЯК

Пра Леаніда Собінава казалі, што ў дзень сваіх выступленняў ён пасля дванаццатай гадзіны дня нічога не еў, каб прыгажэй і лягчэй гучаў яго голас.

А італьянскі спявак Энрыка Каруза за паўгадзіны да выступлення з'ядаў парася, сцвярджаючы, што інакш не зможа спяваць.

## ПА ЧАРЗЕ

Малады чалавек звяртаецца да бацькі сваёй любай:

— У мяне да вас сур'ёзнае пытанне: ці не згодзіцеся аддаць за мяне сваю дачку?

— Малады чалавек, вы п'еце?

— Дзякую, але давайце спярша ўладкуем гэту справу.

## ЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА

У аднаго габраўца сапсаваўся тэлевізар: вобраз ёсць, а гуку няма.

— Жонка, — гаворыць ён, — папрасі суседа Генча ўключыць галасней гук. Я тут буду глядзець, а адтуль слухаць.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Гені Мінько з Беластока змяшчаем песню:

## ОТЗОВИСЬ

*Слова: Н. Рыленков*
*Музыка: А. Живцов*

Зеленая околица,
В тумане огоньки,
Идёт, поёт вполголоса
Девчонка вдоль реки. (2 раза)

Прикрив глаза ресницами,
От счастья чуть дыша,
Поёт о том, кто снится ей,
Кого зовёт душа. (2 раза)

Сияньем вечеров она,
Как музыкой, полна,
Навеки очарована,
Впервые влюблена. (2 раза)

И вот поёт вполголоса,
Без слов... Да что слова!
Ей вторит вся околица,
Цветы, кусты, трава.
Неужто не услышишь ты,
Не отзовешься ей?



*Першы ўрок.*

## АМЕРЫКА

Фірма, якая прадавала пілюлі ад паўнаты, атрымала наступны ліст:

«Вашы пілюлі цудоўныя. За першыя два тыдні мая жонка пахудзела на шэсць кілаграмаў, а некалькі дзён назад яна зусім знікла. Ваш удзячны Майкл Сміт».

## ПЕЛАМІДА

Габравец купляе пеламіду. Прадаўшчык пытае, якую частку рыбы яму адрэзаць.

— Адрэж крыху ад галавы. Добра. Адрэж і ад хваста. Вельмі добра! А цяпер дай мне сярэдзіну.

## ЦІШЭЙ ТУПАЙЦЕ...

Бацька купіў тэлевізар. Якраз перадавалі канцэрт, у якім было шмат танцавальных нумароў. Чатырохгадовы Алесь не вытрымаў, падыйшоў да тэлевізара і сурова сказаў:

— А ну цішэй тупайце, а то тэлевізар разаб'еце.

## ЛЯСНІК І УРАДНІК

Дарогай пад лесам ідзе ляснік з сабакам. Сустракае ўрадніка. Вось ураднік і кажа:

— У цябе добры сабачка, ты яго падвучы крыху, з яго будзе добры ляснік.

— Так, так, на лесніка трэба яшчэ падвучыць, а ўраднік з яго і зараз быў бы добры.



*— Табе, вядома, гарачыня зусім не перашкаджае, ляжыш сабе ў халадку!*




## АГНЯСТРЭЛЬНЫЯ ПАСЫЛКІ

На паштамце ў Сан-Франціска паліцыя выявіла неверагодную колькасць незвычайных пасылак, якія прыходзяць з Паўднёвага В'етнама. Толькі за два дні было раскрыта 25 пасылак... са зброяй. Як відаць, амерыканскія галаварэзы клапоцяцца пра той час, калі вернуцца дамоў, — трэба ж будзе «здабываць хлеб надзённы»...

## МОДА І БЯСПЕКА

Міністэрства транспарту Англіі далучыла свой голас да хору прыхільнікаў мінімоды. У адной з брашур, выпушчаных міністэрствам, гаворыцца, што міні-спадніцы садзейнічаюць бяспецы руху на шасейных дарогах, бо голыя ногі здалёк добра бачны для вадзіцеляў вечарам у святле фар. Тым жанчынам, якім усё ж падабаюцца мідзі і максі — спадніцы, рэкамендуецца шыць іх з тканін светлых таноў.

## ПАСЛЯ СВІСТКА

Пасля матчаў італьянскім футбалістам і суддзям даводзіцца карыстацца самымі неверагоднымі хітрыкамі, каб выбрацца са стадыёна цэлымі і здаровымі. Адзін суддзя расказаў пра такі выпадак са сваёй практыкі. «Гэта было пасля матча ў Рыме. Калі я пакідаў стадыён, сотні людзей цалавалі мне рукі...» «Вы так добра судзілі?» — спыталі ў мяне журналісты. «Не, проста для таго, каб выбрацца з гэтага пекла, я быў вымушан апрануцца ў адзенне епіскапа».




*Абяцай, але памятай, што табе таксама могуць паабяцаць.*